"Бывай здаровы, мужыцкі народзе! Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе". К.Каліноўскі.



# СПАДЧЫНА

АСВЕТНІЦКАЯ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА ЛЁЗНЕНШЧЫНЫ. №2, чэрвень 2000г.

# ЯК НАС РОБЯЦЬ МАРГІНАЛАМІ

Сёння ва ўсіх на слыху зусім не рытарычная праблема: грамадства апанавала бездухоўнасць, безысходнасць, парушаны маральныя каштоўнасці.Такія скаргі можна пачуць з вуснаў людзей самых супрацьлеглых поглядаў. Мабыць яно і сапраўды так. Адны ківаюць на эканамічны крызіс, другія вінавацяць дэмакратаў і апазіцыю, а трэція лаяць усіх разам. Але ці задумваемся мы над тым, што такую сітуацыю стварылі самі? Што кожны з нас вінаваты ў гэтым? Звычайны аналіз паказввае, што не. Мы згодны абвінаваціць любога, толькі не сябе. Адсутнасць самааналізу і самакрытыкі - характэрная рыса сацыяльнай праслойкі -МАРГІНАЛАЎ. Менавіта яны, адбіўшыся ад сваёй сацыяльнай групы па розных абставінах, так і не знаходзяць належнага месца ў грамадстве. Яны ізгоі, іх не прымаюць у сваё асяроддзе класічныя сацыяльныя групы. Таму ім наканавана быць на сацыяльным дне з усімі выцякаючымі наступствамі. Мне здаецца, што маргінальнымі могуць быць цэлыя народы. Шкада праводзіць паралелі, але сёння беларуская нацыя пераўтвараецца менавіта ў народ-маргінал, што, вядома, вядзе да яго самазліквідацыі.

І так, народ або нацыя - гэта супольнасць людзей, аб'яднаных адзінствам тэрыторыі пражывання, мовы, культуры, традыцый, эканомікі і г.д. Ці размываюцца гэтыя складовыя часткі паняцця на Беларусі? Давайце прасочым.

**Адзінства этнічнай тэрыторыі.** За апошнія 80 гадоў яна скарацілася амаль на адну трэць. У 1921 годзе па Рыжскай дамове былі анексіраваны Савецкай Расіяй Смаленскія, Бранскія, Вялікалук-скія землі. У 1940 годзе Віленскі край перададзены Сталіным Літве, а ў 1945г. Беластоцкае ваяводства - Польшчы. Рэакцыя народа - абыякавая. Тым больш, што ў гэтым бессаромным падзеле ўдзельнічалі і беларускія камуністы. Сёння ж нам прапануюць аб'яднацца з суседняй дзяржавай, у дзесяткі разоў большай за нас па тэрыторыі і насельніцтву. На абшарах гэтай класічнай імперыі ўжо зніклі дзесяткі народаў, а многія знаходзяцца на мяжы знішчэння. У пэўны час яны страцілі сваю этнічную тэрыторыю, а потым зніклі і як этнасы. Гэткі лёс чакае і Беларусь, калі яна там апынецца. А народ што? Адны гарланяць - у Расію, другім - абыякава. Гатовыя страціць усё, толькі дзеля чаго?... Маргінал не здольны адказаць на гэта сэнсоўна.

**Культура і традыцыя.** Аб самабытнасці гэтых нацыянальных рыс беларусаў напісаны сотні кніг і даследванняў у шмат якіх краінах свету. Нават вывелі паняцце «беларускі менталітэт». Пачынаючы з 30-х гадоў ідзе чыста спланаваны наступ на культуру і традыцыі, які быў закладзены яшчэ на пачатку XIX стагоддзя расійскім царызмам. Народ, у мове якога адсутнічалі брыдкія словы накшталт расійскіх матаў, які не ведаў п'янства і гультайства, зведаў усю гэтую шчодрасць ад усходняга суседа. Нацыя гіне ў брыдкаслоўі, п'янстве. Дзе падзелася шчодрасць, дабразычлівасць і павага? А фарс наконт «беларускага менталітэту» скарыстоўваецца ўладамі як мэтанакіраваная палітыка па выхаванню паслухмяных, бязропатных рабоў-робатаў. І ўсе пляскаюць у далоні ад самазамілавання: якія мы спакойныя, разважлівыя ды ціхія. Валы таксама ціхія, ды на іх ваду возяць, - кажа тая ж народная прымаўка.

**І нарэшце аб самым балючым - аб мове.** Кажуць мова - душа народа. Няма мовы - няма народа. Гавараць аб мэтанакіраваным знішчэнні беларускай мовы ўжо нават агідна. Прыкра за палітыкаў, прыкра за сам народ. У біблейскіх паданнях гаворыцца аб тым, што кожны народ атрымаў ад бога сваю зямлю і сваю мову. Значыць гэтыя паняцці святыя. І той, хто пасягае на гэтыя святыні мусіць панесці кару за свае ўчынкі. Дык што ж здарылася з табой, мой народ? Чаго ты дазваляеш, каб нелюдзі ды чужакі здзекваліся з цябе? Бо гэта сапраўдны здзек, калі ў Мінску, сталіцы тваёй краіны Беларусі за тое, што ты пачаў размаўляць з адміністратарам гатэлю па-беларуску, табе паказваюць на дзверы і адмаўляюць у засяленні. Цікава б было назіраць тую ж карціну ў Маскве, калі б адміністратар запатрабаваў размаўляць з ім панямецку або па-украінску? Гэта балючая і жорсткая рэчаіснасць сённяшняй Беларусі.

Настаў крытычны момант для ўсіх сумленных людзей Беларусі. І не важна, на якой мове ты сёння размаўляеш - беларускай, рускай або польскай. Знайдзі ў сабе мужнасць, хоць раз у жыцці задумацца аб тым, хто ты ёсць сам, хто твае продкі, дзе і адкуль твае карані, і што ты пакінеш сваім дзецям. І што менавіта ад тваёй пазіцыі,твайго выбару будзе залежыць лёс наканаванай табе Богам Бацькаўшчыны. Вось тады з палёгкай адчуеш, што ты не проста нейкі маргінал, а часцінка старажытнага еўрапейскага народа, імя якому - БЕЛАРУСЫ!

***Міхал Космыкаў***

## НАША МОВА

*Ты, родная мова, - гаючы бальзам.*
*Ў гады непакою, у гады ліхалецця*
*Табе свае сэрца я цалкам аддам,*
*Цябе назаўжды перадам сваім дзецям.*
*Калісьці разбэшчаны польскі магнат*
*Таптаў цябе грэбліва, родная мова,*
*А потым расійскі чыноўнік, як кат,*
*Хацеў цябе знішчыць дарэшты нанова.*
*Яшчэ і цяпер ты ўпаўголас гучыш,*
*Яшчэ цябе лічаць дзіваццкай, ніягоднай,*
*Яшчэ невялічкай крынічкай бяжыш,*
*А станеш, я веру, ракой паўнаводнай.*
*Ідзе па краіне вясны крыгаход,*
*Дняпроўскія хвалі нясуць абуджэнне.*
*Святкуе наш край вызвалення прыход,*
*Спрадвечную мару - сваё Адраджэнне.*
*І дрэва жыцця не спіліць, не зламіць,*
*Яно - гэта слова, культура народа.*
*Калі ўдалося ганьбу пераэкыць,*
*Дык волю пазнаці - адна асалода.*
*І гоман прынёманскіх чыстых бароў,*
*І белыя чайкі над Нарачу сіняй,*
*І веліч наддзвінскіх крутых берагоў,*
*І шолах травы, што над Шчарай і Пінай,*
*Усё абдымаеш ты словам сваім,*
*Пявучым, прыгожым, такім мілагучным...*
*Мы, усе беларусы, на гэтым стаім*
*І будзем стаяць грамадой непарушнай.*

**Уладзімір Бандарэнка**

● *ПОМНІКІ ЛЁЗНЕНШЧЫНЫ ПРАЗ ПРЫЗМУ ЧАСУ*

# ПРАЎДА І ПАМЯЦЬ

За савецкім часам, ды і чынавенства сённяшняга рэжыму, хочуць пісаць гісторыю так, як ім зручна. Тое, што магло б абудзіць нацыянальную годнасць заштрыхоўваецца, а ўсё прарасійскае - вылузгваецца паўсюдна. Але аднойчы пазнаўшы праўду, хлусню больш слухаць ня будзеш. Наша Лёзненшчына вельмі багатая гістарычнымі падзеямі, але ж мала якіх слядоў тых часоў, пабываўшы ў раёне, ты знойдзеш. І гэта нягледзячы на тое, што на кожным кроку цябе сустракае помнік. Энцыклапедыя «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць» гаворыць нам аб наяўнасці ў раёне 110 помнікаў, якія ахоўваюцца дзяржавай. А ўсяго на Лёзненшчыне больш за 2 тысячы помнікаў і абеліскаў. На 24 тысячы жыхароў, гэта адзін помнік на 12 чалавек, а з разліку населеных пунктаў (178) па 11 помнікаў на кожны. Лічбы ўражваюць! Але ж, за выключэннем 25 помнікаў археалогіі, усе астатнія адносяцца да савецкіх часоў. З іх 3 - часоў грамадзянскай вайны, помнікі-бюсты Лынькову, Калініну, Чапаеву і 4 - Леніну. Усе астатнія адлюстроўваюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Такое зусім невыпадкова, бо на тэрыторыі раёна дзевяць месяцаў стаяла лінія фронту, ішлі крывапралітныя баі, дзейнічала адна з буйнейшых на Беларусі партызанская брыгада імя Аляксея (толькі пра гэту брыгаду зараз знайшліся не зусім прыемныя факты). У баях загінула 27 тысяч воінаў Чырвонай Арміі і партызан, раён жа страціў 13 тысяч чалавек. А калі дадаць яшчэ 40-50 тысяч нямецкіх захопнікаў, то па самых сціплых падліках у лёзненскай зямлі пакояцца астанкі каля 100 тысячаў ахвяраў той вайны.

Але нё ўсе яны ўвекавечаны прыстойна. Адбыўся нейкі аднабокі перакос. Партызанам, савецкім воінам і афіцэрам устаноўлены дзесяткі помнікаў і сотні абеліскаў. Іх прозвішчы «залатымі» літарамі адлюстраваны на стэлах. Мірныя жыхары, што загінулі ад рук нацыстаў, такой павагі не атрымалі. Вельмі паказальны ў гэтым сэнсе, так званы «Адаменскі яр», дзе ўстаноўлены два помнікі: адзін воінам, другі - ахвярам халакосту. Першы - прыгожы ансамбль са стэламі, добра дагледжаны. І тут жа, побач, крокаў за 50, сціплая стэла ахвярам фашызму. Менавіта тут, у Адаменскім яру, на ўскраіне Лёзна каля ракі Мошна, на працягу першых месяцаў вайны гітлераўцы знішчылі ўсіх яўрэяў раёна - каля 1200 чалавек. Відавочцы сведчаць, што потым цэлыя суткі варушылася зямля і крываточыла чырвонымі ручаямі на месцы жудасных здзекаў фашыстаў. Дык вось, у савецкай улады «не знайшлося» сродкаў на ўзвядзенне дастойнага помніка і стэлы для прозвішчаў закатаваных землякоў. Па якой прычыне, здаецца вядома, бо ахвяры - яўрэі.

У 1998 годзе старшыня Віцебскага кагалу - пісьменнік А.Б.Шульман пабываў у Ерусаліме і прывёз адтуль няпоўны спіс закатаваных у Адаменскім яру. Дарэчы, сярод загінуўшых былі і блізкія родзічы сусветна вядомага земляка - Марка Шагала. У Ізраілі, на сцяне смутку, ім знайшлося месца, а вось на сваёй малой радзіме - не. Гэтыя спісы ўжо перададзены ў беларускі Мартыролаг.

У гады вайны на тэрыторыі раёна знішчана і пахавана каля 50 тысяч вямецкіх салдат і афіцэраў (лічба вельмі прыкладная). Па ўспамінах старажылаў, было некалькі нямецкіх могілкаў. Але пасля вызвалення ўсе яны былі знішчаны, і сёння ўжо няма аніякіх слядоў іх існавання. На былых вайсковых могілках каля вёсак Крынкі і Рублёва - калгасныя палеткі, на якіх вырошчваюць хлеб. Ці не ад таго такія нізкія ўраджаі тут (12-15 ц/га), узросшыя на чалавечых костках, няхай і варожых? А ў вёсцы Чарніцы, на такім жа пагосце, узвышаецца стары будынак спецшколы - інтэрната для слабаразвітых дзяцей, што зноў наводзіць на дрэнныя думкі. А самыя вялікія могілкі ў Лёзне, каля чыгуначнаё станцыі, забудаваны жылымі дамамі. І нідзе ніводнага знака, не кажучы ўжо аб тым, каб быў пастаўлены крыж.

З гэтай нагоды прыходзіць на думку дзейнасць Народнага Германскага Саюзу па догляду ваенных магіл, які аднолькава шануе на тэрыторыі Германіі, як нямецкія, так і савецкія пахаванні часоў другой сусветный вайны. На жаль, беларускія «парламентарыі» яшчэ і па сённяшні дзень не ратыфікавалі германа-беларускае пагадненне аб вайсковых пахаваннях, што было падпісана 28 чэрвеня 1996 года. Германская амбасада ў Мінску зазначае на сёння, што «..сваёй вялікай задачай мы лічым захаванне памяці аб ахвярах войнаў у мэтах служэння справе міру. Захаванне вайсковых пахаванняў з'яўляецца заклікам да міру і ў той жа час гуманным абавязкам. Ваенныя пахаванні робяць бачнымі ўзаемапаразуменне і прымірэнне.» На жаль, кіруючыя колы Беларусі прымірэння з Заходняй Еўропай шукаць не жадаюць. Ды аб якім прымірэнні можа ісці гаворка, калі яшчэ ў балотах, лясах, на палях бялеюць косткі ды астанкі сваіх жа савецкіх воінаў. Па сённяшні дзень не завершана іх перазахаванне і ў Лёзненскім раёне.

Вельмі шкада, што помнікі часоў Вялікай Айчыннай вайны ўжо не выклікаюць таго пакланення, як раней. Асабліва, калі яны сімвалічныя. У цэнтры Лёзна, якраз па шашы на Смаленск, стаіць такі сімвал - танк. Менавіта ён і стаў тым аб'ектам, праз які радыкальна настроеныя беларусы пратэстуюць супраць інкарпарацыі Беларусі ў Расію. Неаднойчы ён распісваўся антырасійскімі і антыпрызідэнцкімі лозунгамі. У лістападзе мінулага года помнік быў падвергнуты новаму акту вандалізма. З ягонай стэлы былі зняты ўсе пралёты тэксту, выплаўленага з каляровага металу. І будзем шчыра казаць, што гэта зрабілі не так званыя «апазіцыянеры», а так званы электарат, даведзены уладамі да галечы. Усё гэта яшчэ раз яскрава пацвярджае думку наконт таго, што палітычныя сімвалы існуюць толькі да таго часу, пакуль існуе іх уладная падтрымка.

**М.ХАЛЕЦКІ**

# Далягляды

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ СТАРОНКА. ВЫПУСК ДРУГІ.

## ЛЁЗНА

*Лёзна, Лёзна ,- гучыць грозна*
*Для нахабных іншаземцаў,*
*Для французаў і тых немцаў,*
*Хто хацеў наш край знявечыць,*
*Афранцузіць, анямечыць.*
*Лёзна, Лёзна, - прашу слёзна:*
*Дай ты мір майму народу,*
*Дай усім ты толькі згоду,*
*Лёзна, Лёзна.*
*Дай спачын магілам продкаў,*
*Ім спраўляй заўжды ўгодкі,*
*Лёзна, Лёзна.*
*Тут - завозна. Бо на рынак запрашаеш*
*Гандляроў з усяго свету.*
*Тую добрую прыкмету*
*Заўважаеш, адабраеш.*
*Дай усім снедаць, і абедаць,*
*І вячэраць з веку ў векі,*
*Каб заўсёды чалавеку*
*Ты свяціла, як паходня,*
*Як учора і як сёння,*
*Лёзна, Лёзна.*
*Розум позні.*
*Я табе - сваё маленне,*
*Ты ў адказ - благаслаўленне,*
*Лёзна, Лёзна.*

## БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА

*Беларускае пісьменства, ты як ружа, цуда-краска,*
*бо прыходзіш у маленства з калыханкай, разам з казкай.*
*Існасць матчынай гаворкі ў сябе ўвасабляеш,*
*ручайком бяжыш з пагорка, новы дзень заўжды вітаеш.*
*Ад Францыска ад Скарыны з намі кнігадрукаванне,*
*можа,першыя цагліны на мурах самапазнання.*
*Сталі мы здаўна народам у сям'і народаў-брацціяў,*
*хай мацнее з кожным годам думка, што ў адзінстве шчасце.*
*-Не, няхай ніхто не лічыць: беларус ціхмяны, сонны...*
*Мова наша ў далі кліча сеяць мудрасці загоны.*
*Прасвятленне і асвета, асвятляць, свяціць, свяціла,*
*чуеш корань у гэтых словах, бо ў карэнных моц і сіла.*
*Не, не золак, а світанак у залатой лістоце клёнаў.*
*Хай вітае школьны ганак:*
*-Новых вам рабяты плёнаў!*
*Не, ніколі не загінуць*
*Нашы кнігі і гаворка.*
*Трэба ў глебу зерне кінуць...*
*У час жаданы, а не ў горкі.*

**Уладзімір Бандарэнка**
**Лёзна.1995г.**

● *З ГІСТОРЫІ МЯСТЭЧКАЎ ЛЁЗНЕНШЧЫНЫ*

## ЛЁЗНА

Узнікла на землях Мікулінскай воласці, якая ў канцы XV стагоддзя была ў кіраванні служылага князя Івана Асавіцкага. У 1514 годзе разам са Смаленскам заваявана Маскоўскім княствам. У 1526 годзе гэтыя землі зноў перайшлі да Вялікага княства Літоўскага. У канцы XVI стагоддзя сяло Лёзна ў складзе Мікулінскай воласці Віцебскага павету. З 1625 года - уласнасць князёў Агінскіх. Паводле некаторых звестак, назва «Лёзна» паходзіць ад слова «лёзны» (у значэнні «чужы», «прышлы», «нетутэйшы»). У 1654 годзе Лёзна ўпамінаецца як мястэчка. У 1786 годзе Агінскія заснавалі тут мураваную праваслаўную царкву (падрабязная інфармацыя была ў папярэднім нумары «Спадчыны»).

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе Лёзна ўвайшло ў склад Расійскай імперыі і з'яўлялася цэнтрам воласці Аршанскага павета Магілёўскай губерні. У 1870 годзе перайшло да князёў Храпавіцкіх, потым да А.І.Шабекі.

У пачатку франка-рускай вайны 1812 года ў Лёзне два тыдні стаяў трэці корпус маршала М.Нея, пра што сведчыць малюнак маёра французскай арміі Х.Фабера дзю Фора «На біваку ў Лёзне ў жніўні 1812 года».

З 1831 года ў Лёзне штогод праводзілася чатыры кірмашы, былі развіты гарбарнае, кравецкае, сталярнае, сукнавальнае і іншыя рамёствы. З адкрыццём у 1866-67 гадах руху па Рыга-Арлоўскай чыгунцы на ўскраіне Лёзна пабудавана чыгуначная станцыя. У 1865 годзе адкрыта народнае вучылішча (47 вучняў, у 1905 - 230). У 1875 г. (пры станцыі) пачала дзейнічаць царкоўна-прыходская школа, якая у 1887 годзе была пераўтворана ў чатырохкласнае народнае вучылішча.

У 1846 годзе у мястэчку ўсяго пражывала 745 жыхароў, а ў 1880 - ужо 1536 чалавек, 216 драўляных дамоў, 25 крам, валаснае праўленне, бальніца. У 1897 годзе налічвалася 2473 жыхары, а ў 1910 - 2585 , з іх 14 дваран і чыноўнікаў, 12 свяшчэннаслужыцеляў, 1817 мяшчан, 731 селянін, 11 прадстаўнікоў іншых саслоўяў.

З 1919 года ў складзе РСФСР, а з 1924 у БССР, цэнтр адпаведнага раёна, з 27 верасня 1938 года ў статусе гарадскога пасёлка. У 1939 годзе ў Лёзне пражывала 4111 жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну з 17 ліпеня 1941 года акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі ў Лёзне 1200 чалавек. Вызвалены гарпасёлак 8 кастрычніка 1943 года войскамі Калінінскага фронту.

Лёзна - радзіма сусветна вядомага мастака Марка Шагала, артыкул пра якога чытайце ў наступным нумары «Спадчыны».

**«Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», том 4.**

## «МАРТЫРОЛАГ» ВЁСАК ЛЁЗНЕНШЧЫНЫ

*(Працяг публікацыі)*

**Веляшковіцкі сельскі савет:** вёскі Агеянкі, Альшуціна, Багуцкі, Буб нова, Бугрына, ВалуцІна, Варшаўка, Вугляны, Гапонава, Гарэлышы, Голікі, Грубаўшчына, Гулідава, Жаўняры, Жаўцякі, Жукава, Забалоцце, Зосіна, Кавалёўка, Карусі, Клёпікі, Кралькі, Красная Гара, Лысухі, Любоўні, Мазурына, Марачы, Машкова, Навасёлкі, Нікіценкі, Прудзішча, Расказы, Родзіна, Скургава, Смолікі, Стар, Старая Дуброва, Старынкі, Стральцоўшчына, Сяргееўшчына, Урок, Ушыўка, Юрчанкі, Яміна.

**Горбаўскі сельскі савет:** вёскі Альхоўка, Асінаўка, Балтуны, Ваські на, Вёрхні Востраў, Відусы, Гута, Дзікалава, Жукаўка, Зеляніха, Мар'янава, Ніжні Востраў, Партасова, Старынкі, Стары Пень, Сцяг, Трапашкіна, Фаміно, Шалахоўшчына, Юраўшчына.

**Дабрамыслянскі сельскі савет:** вёскі Ануфрэенкі, Астроў, Барані, Барсукі, Вайцякова, Валчкова, Вінакорна, Жыкаўка, Заазер'е, Замагілкі, Захарэнкі, Знайдзена, Калодавічы, Капусціна, Касачы, Качалкіна, Лагуны, Мінчонкі, Навікі, Падворца, Слабада, Снегіры, Собалева, Шэлахава, Янкоўцы.

**Кавалёўскі сельскі савет:** вёскі Бабкі, Бададзелка, Васюціна, Галубоўшчына, Ганчароўка, Гарыны, Гаўрыкі, Глоданкі 1-я, Гламазіна, Грабонкі, Зараўляны, Казімірава, Казлы, Капусціна, Каралёва, Касакі, Ляпнёўшчына, Мякці, Несцяры, Паступаі, Пушча, Сабачонкі, Саплёўшчына, Стайкі, Цішкіна, Цюрэнкі, Цяцюжына, Шарапаўшчына, Швынкі.

**Крынкаўскі сельскі савет:** вёскі Аргуны, Асеткі, Астроўшчына, Баброўка, Баранава, Блокпост, Бор, Брадкі, Браслова, Бубалева, Гараватка, Германава, Глушкі, Града, Грэнкі, Дзімітраўка, Дзяковіна, Драгуны, Жарнасекі, Жарнасекі 2-ія, Жылішчына, Забор'е, Загуддзе, Загуззе 1-е Загуззе 2-е, Заворнае, Задне, Зардзеншчына, Казачонкі, Казюліна, Кажэкіна, Калабушы, Каменка, Каратоўша, Карлугі, Картышава, Кашачніца, Клімчонкі, Клодавічы, Круг, Крукава, Купрэева, Кухарава, Лашнева, Лешына 1-е, Лешына 2-е, Ліссі Горы, Лявуціна, Ляднікі, Ляхаўшчына, Маркуна, Мар'янова, Механікі, Міхалкова, Навасёлкі, Палякова, Пушча, Рамшына, Вусешчына, Свяцільніца, Сімакі, Скарада, Слабада 1-я, Слабада 2-я, Стажарышча, Старына, Старына 1-я, Старына 2-я, Сухадрыўка, Хамяны, Хотані, Цінькова, Ціхаўка, Цюцюны, Шашкова, Юлькова, Ярзоўка, Ярмалкава.

**Лёзненскі сельскі савет:** вёскі Азярок, Антонькава, Жары, Жукава, Кар'ер, Завольша, Касцечана, Клішына, Кракаўшчына, Красыншчына, Кружкі, Лішакі, Марцюткава, Прудзішча, Саланец, Сасонне, Чарніцы.

**Стасеўкі сельскі савет:** вёскі Арцюхі, Баранава, Барсукі, Буракі, Буры, Быдлева, Ведземкі, Вялікія Ведземкі, Вялікае Затур'е, Гарні, Гарэлышы, Грусівічы, Грыбухі, Грышчонкі, Доўгае, Дубы, Жукава, Заво лішча, Задарожжа, Заполле, Кавалькі, Казюліна, Каплуны, Козінцы, Красынкі, Крываблошына, Макушы, Малыя Затуры, Папоўнікі, Рычажнікі, Свістунова, Селязні, Сімакі, Сімолькава, Стараселле, Хмылёва, Цітовічы, Цыкуны.

**Яскаўшчынскі сельскі савет:** вёскі Альхімкава, Арэхава, Будзёнкі, Глушаняты, Жукаўшчына, Зубкі, Іванцова, Карнееўшчына, Карэнікі, Кралькі, Лазоўка, Малінаўка, Марцінава, Металухі, Надзёжына, Новая Бель, Пайшава, Паляводзіна, Панеўкі, Плаксіна, Сазонава, Сігаўка, Сутокі, Хатулі, Хучава, Чарткі, Шаўнікі, вёска Ушыўка перайменавана ў Ноў.

## *Да вынікаў апошняга перапісу насельніцтва Беларусі.*

15 снежня 1999 г. газета «Звязда» надрукавала аператыўную інфармацыю першых зводных сацыяльна-дэмаграфічных паказчыкаў па выніках перапісу насельніцтва ў лютым 1999 г. 24 снежня гэтую інфармацыю надрукавала і газета «Народная воля». Адпаведныя дадзеныя перапісу насельніцтва Віцебскай вобласці змешчаны 11 студзеня бягучага года ў газеце «Народнае слова», а таксама ў «Віцебскім рабочым», гарадской газеце «Віцьбічы».

Усе мы памятаем умовы, пры якіх праводзіўся гэты перапіс, і сацыяльны заказ улады, які ён павінен быў выканаць. Ставілася мэта - паказаць, што такога народа, як беларусы, ужо няма, што беларускую мову беларусы не лічаць роднай і ёю не карыстаюцца. У адным з выступленняў А.Г.Лукашэнка падкрэсліваў, што 30% насельніцтва Беларусі складаюць рускія, 20% - палякі, а астатнія 50% - гэта нешта змешанае з беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

Перапіс адбыўся ва ўмовах русіфікацыі, якая мэтанакіравана праводзіцца ў апошнія 5 гадоў. Сёння беларуская мова фактычна выцесненая з усіх афіцыйных сфер ужытку. Дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі ўсялякім чынам фармуецца грамадская думка, што Беларусь была і ёсць часткаю Расіі, а яе жыхары - спрадвечна руския.

Вынікі перапісу праўзышлі ўсе нашыя магчымыя спадзяванні.

Насельніцтва Беларусі за апошнія 10 гадоў зменшылася на 107 тысяч чалавек і склала 10 мільёнаў 45 тысяч. Але колькасць беларусаў за той жа час павялічылася на 254 тысячы і ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі склала больш 8 мільёнаў чалавек. Колькасны склад усіх іншых нацыянальных груп паменшыўся: рускіх - з 1 342 тыс. да 1 142 тыс., палякаў - з 418 тыс. да 396 тыс., украінцаў - з 291 тыс. да 237 тыс., яўрэяў - з 112 тыс. да 28 тыс. Прыкладна такая ж дынаміка нацыянальнага склада насельніцтва і Віцебскай вобласці. Колькасць беларусаў у вобласці за 10 год павялічылася з 79,4% да 82%, рускіх - зменшылася з 15,2% да 13,6%. Не гледзячы на жорсткі ўціск, беларускую мову назвалі сваёй роднай 85% беларусаў і 18% не беларусаў. Разам гэта складае больш 7 мільёнаў чалавек, з іх 3,7 мільёна размаўляюць дома па-беларуску. Гэта 41,4% ад усіх беларусаў.

У нашай вобласці з ліку беларусаў 84% назвалі роднай мовай беларускую супраць 77% у 1989 годзе. На беларускай мове размаўляюць дома 437 тысяч чалавек, або 32% жыхароў вобласці. З ліку беларусаў 37% размаўляюць дома па-беларуску.

Аналізуючы гэтыя лічбы, радуючыся ім, - мы павінны задаць уладам нямала пытанняў: чаму для беларусаў няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы на беларускай мове, чаму большасць школ працуе на рускай мове, чаму ў дзяржаўных установах размаўляюць на рускай мове, чаму і суддзя, і бацюшка, і сяржант, і дырэктар не размаўляюць з намі па-беларуску.

Грамадзяне Беларусі ў час перапісу зрабілі свой выбар на карысць мовы карэннай нацыі, яны заявілі аб сабе як нацыя, як беларускі народ, і мы маем права патрабаваць ад дзяржавы, ад улады як мага хучэй забяспечыць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнай, а для гэтага стварыць неабходныя ўмовы для выкарыстання беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь адпаведна вынікаў апошняга перапісу насельніцтва

Заснавальнік і рэдактар Міхал Космыкаў.
Адрас рэдакцыі: 211200, г.п.Лёзна, вул.М.Акцябрская 69-12.
Тэлефон 2-23-10

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі». Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 290 асобнікаў.